# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Субота, 10 снежня 1994 года | №132 (10832) | Цана 80 руб.


## НЕЧАРГОВАЯ СЕСІЯ АБЛАСНОГА САВЕТА

Учора адбылася нечарговая, XYIII сесія абласнога Савета дэпутатаў. Яна праходзіла ў Рэспубліканскім інфармацыйна-культурным цэнтры з удзелам шматлікіх прадстаўнікоў працоўных калектываў. На парадак дня было вынесена адно пытанне: "Аб зацвярджэнні старшыні Мінскага аблвыканкома".

Пасля сфарміравання рабочых органаў сесіі выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь **А.Р.Лукашэнка.** Ён прадставіў на разгляд дэпутатаў кандыдатуру П.П.Пётуха, які раней працаваў старшынёй Барысаўскага гарвыканкома, а апошнім часам — прэзідэнтам канцэрна "Белмясцпром". Пераважнай большасцю галасоў гэтая кандыдатура была падтрымана.

**Такім чынам, старшынёй Мінскага аблвыканкома стаў Пётр Пятровіч ПЁТУХ.**

У сваім кароткім выступленні П.П.Пётух падзякаваў за аказаны давер. Сказаў, што зробіць усё магчымае, каб апраўдаць яго.

Затым выступіў А.Р.Лукашэнка. Ён спыніўся на выніках сваёй паездкі ў Будапешт. Ахарактарызаваў сённяшняе знешнепалітычнае становішча нашай рэспублікі. Затым закрануў эканамічныя пытанні. У прыватнасці, ішла размова аб забеспячэнні народнагаспадарчага комплексу энерганосьбітамі, мерах па стрымліванню інфляцыйных працэсаў у рэспубліцы, развіццю гандлёвых узаемаадносін з рэспублікамі былога Саюза. Шмат увагі ў сваім выступленні А.Р.Лукашэнка ўдзяліў сацыяльным праблемам. Адзначыў, што зараз прапрацоўваюцца меры па сацыяльнай абароне насельніцтва.

У заключэнне прэзідэнт адказаў на шэраг пытанняў прысутных.

На гэтым XYIII нечарговая сесія абласнога Савета дэпутатаў закончыла сваю работу.

## Яго звалі беларускім Мальерам

**Днямі ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбыўся вечар, прысвечаны 110-годдзю з дня нараджэння Ф.Ждановіча.**

У гісторыю беларускай нацыянальнай культуры ён увайшоў як заснавальнік беларускага прафесійнага тэатра. Гэты чалавек у сваёй асобе надзвычай удала спалучаў выдатныя арганізатарскія здольнасці і талент рэжысёра, акцёра. Ф.Ждановіч сыграў на сцэне больш за пяцьдзесят рознахарактарных роляў. Яго заслужана называлі беларускім Мальерам. Менавіта Ждановіч надаў сцэнічнае жыццё драматычным творам Я.Купалы. У тым ліку "Паўлінцы".

Больш трыццаці пяці гадоў быў звязаны з тэатрам Ф.Ждановіч. У канцы 30-х яго рэпрэсіравалі.

На вечары дэманстравалася выстаўка рэдкіх фотаздымкаў з сямейнага архіва Ждановічаў. Шмат цёплых слоў аб выдатным акцёру, рэжысёру сказалі тэатральны крытык Б.Бур'ян, мастацтвазнаўца В.Козел.

*Мікалай ЖУЧКО.*

## Природный газ — в Ивенце

На этой неделе получил природный газ городской поселок Ивенец. К голубому топливу подключены самые энергоемкие потребители поселка: котельные птицефабрики и школы-интерната. На очереди — перевод на природный газ индивидуальных домовладельцев. Уложено около пяти километров уличных газопроводов, ведется монтаж вводов к домам и внутренняя разводка.

Немного раньше, ко Дню работников сельского хозяйства, голубой огонек природного газа вспыхнул в домах хлеборобов колхоза "Шипяны" Смолевичского района.

С приходом природного газа значительно улучшится быт жителей поселков и экологическая обстановка.

*Геннадий БАБКЕВИЧ.*

## ГЕОПОЛИТИКИ О КРИЗИСЕ

Белорусская Академия геополитики официально зарегистрирована в Министерстве юстиции Республики Беларусь. Впервые в официальном статусе она провела "круглый стол" на тему "Социально-политическая ситуация в Республике Беларусь". В его работе приняли участие ведущие ученые страны, хозяйственные руководители, лидеры ряда политических партий. С докладами выступили президент академии доктор философских наук Валентин Акулов, вице-президенты БАГ доктор философских наук Иван Антонович и доктор социологических наук Игорь Котляров, кандидат экономических наук Василий Хоревский.

В докладах содержался политологический и социологический анализ ситуации в стране, раскрывались причины системного кризиса, предлагались конкретные пути выхода из него. Выступившие предложили свое видение социально-экономического положения в Беларуси. Были приняты конкретные рекомендации по стабилизации общества. Решено сделать проведение подобных "круглых столов" традиционным. На следующем заседании предложено обсудить национальные интересы Беларуси.

*/НАШ КОРР./.*

Мінскае аблгразабеспячэнне парадавала ўладальнікаў фермерскіх гаспадарак вобласці адкрыццём у Мінску спецыяльнага магазіна «Фермер», які размясціўся ў будынку БЕЛНДІЛІТ. Асартымент тавараў, як і гандлёвая плошча магазіна, пакуль невялікія, і гаварыць аб тым, што тут ёсць усё неабходнае для фермерскай гаспадаркі, яшчэ рана. Аднак стваральнікі магазіна ў сваім дзецішчы бачаць не проста гандлёвую кропку, а цэнтр, здольны працаваць па заказах, інфармаваць фермераў аб таварах, якія ёсць на раённых базах аблгразабеспячэння, а таксама садзейнічаць збыту фермерскай прадукцыі. Дарэчы, назва магазіна не азначае, што ён будзе абслугоўваць толькі гэтую катэгорыю сельскагаспадарчых працаўнікоў, але фермерам паабяцаны прыярытэт.

*НА ЗДЫМКАХ:* касір-прадавец Ніна **Сямёнава;** у зале магазіна.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## БЮДЖЭТ ПАВІНЕН БЫЦЬ РЭАЛЬНЫМ

**Рэальныя даходы насельніцтва, нягледзячы на неаднаразовыя павышэнні мінімальнай зарплаты, знізіліся ў гэтым годзе на 25 працэнтаў. Сацыяльная неўладкаванасць людзей, разбурэнні ў эканоміцы прывялі да мяжы, толькі кардынальныя меры могуць пераламаць сітуацыю ў эканоміцы і стварыць умовы для паступовага выхаду з крызісу. У такім ключы ішла размова на пасяджэнні Кабінета Міністраў.**

Віцэ-прэм"ер Сяргей Лінг, які выступіў з прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на будучы год, адзначыў, што варыянтныя прапрацоўкі паказваюць рэальную магчымасць ужо ў 1995 годзе прыкладна ў тры разы знізіць спад у эканоміцы, прыпыніць інфляцыю з 14 працэнтаў у месяц у пачатку года да 1 працэнта ў снежні. Кабінет Міністраў лічыць, што ў 1995 годзе валавы прадукт знізіцца на 4—7 працэнтаў, агульны аб"ём прамысловай вытворчасці — на 6 працэнтаў, а вось прадукцыя сельскай гаспадаркі дасць рост у 5 працэнтаў. Зыходзячы з мер па больш жорсткай грашова-крэдытнай палітыцы, павелічэнне грашовай масы ў абарачэнні прагнозуецца з ростам у 2,7 раза. Паводле слоў віцэ-прэм"ера, будуць прадоўжаны структурныя зрухі ў прамысловай вытворчасці. Чакаецца прырост прадукцыі ў прыборабудаванні і радыёэлектроніцы. У шэрагу галін прадугледжваецца нязначнае зніжэнне выпуску прадукцыі або захаванне яе вытворчасці на ўзроўні бягучага года. Як адзначыў Сяргей Лінг, у аграпрамысловым комплексе будзе ажыццяўляцца дзяржаўная падтрымка інвестыцыйнай дзейнасці як на рэспубліканскім, так і на мясцовым узроўні. Галоўная задача — не дапусціць пагаршэння забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання.

У дакладзе намесніка прэм"ер-міністра адзначалася, што пры плануемым росце цэн у будучым годзе ў 3,9 раза размер сярэдняй заработнай платы павялічыцца ў 3,2 раза. Больш высокімі тэмпамі яна будзе расці ў работнікаў бюджэтнай сферы.

Кабінет Міністраў лічыць, што ў 1995 годзе актывізуецца знешнеэканамічная дзейнасць. Знешнегандлёвы абарот з краінамі далёкага замежжа прагназуецца ў аб"ёме 1.920 мільёнаў рублёў. Мяркуецца таксама прыцягнуць замежныя крэдыты на суму каля 900 мільёнаў долараў — у 2,8 раза больш, чым у гэтым годзе.

Кабінет Міністраў абмеркаваў таксама праект бюджэту на 1995 год. Першы намеснік міністра фінансаў Мікалай Румас падкрэсліў, што хоць урад і сутыкаецца з пэўнымі фінансавымі цяжкасцямі, аднак сітуацыя з выкананнем бюджэту строга кантралюецца. Ён адзначыў, што некаторыя выступленні ў прэсе аб тым, што казна пустая, не адпавядаюць рэчаіснасці. Большасць надзённых праблем усё ж вырашаецца. Так, напрыклад, толькі ў кастрычніку-лістападзе з рэспубліканскага бюджэту было дадаткова выдзелена каля 850 мільярдаў рублёў. Яны былі накіраваны на рэалізацыю рэспубліканскіх праграм, патрэбы транспарту, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, сацыяльную дапамогу.

Чакаецца, што дэфіцыт бюджэту ў гэтым годзе складзе 4,2 працэнта да ВНП — замест зацверджаных Вярхоўным Саветам 6 працэнтаў. Яго зніжэнне, пры аднначасовай наяўнасці незадаволеных запатрабаванняў, якія датычаць інвестыцый, разлікаў за энерганосьбіты, сацыяльнай сферы, тлумачыцца адсутнасцю вынікаў пакрыцця, — падкрэсліў дакладчык.

Мікалай Румас паведаміў: у будучым годзе чакаецца, што даходная частка бюджэту складзе 18,7 трыльёна рублёў, расходная — 21,3. Прагназуемы дэфіцыт бюджэту — 2,6 трыльёна рублёў, або 4 працэнты да ВНП. За кошт эмісіі мяркуецца пакрыць 50 працэнтаў дэфіцыту бюджэту, астатняе — за кошт атрымання знешніх і ўнутраных пазык, а таксама сродкаў, атрыманых ад прыватызацыі рэспубліканскай уласнасці.

"Некаторыя камісіі Вярхоўнага Савета пры прапрацоўцы праекта бюджэту прапануюць павялічыць расход бюджэту за кошт павелічэння Нацыянальным банкам эмісійных рэсурсаў. Кабінет Міністраў не падзяляе такога пункту гледжання, таму што ён супярэчыць антыкрызіснай праграме, правакуе яшчэ большыя тэмпы інфляцыі", — сказаў Мікалай Румас.

Удзельнікі пасяджэння абмяняліся думкамі па асноўных пытаннях парадку дня. Так, напрыклад, віцэ-прэм"ер Уладзімір Гаркун канстатаваў: "Мы павінны сур"ёзна гаварыць не толькі аб рынычных рэформах, але і аб адміністрацыйнай сістэме кіравання. Пакуль жа мы ўсе выключна слаба займаемся пытаннямі эканомікі".

На думку прэзідэнта Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў Макса Куняўскага, неабходна правесці рэфармаванне падатковай сістэмы, каб зменшыць падатковы прэс на прадпрымальнікаў. Дэпутат Вярхоўнага Савета Анатоль Нятылькін адзначыў, што адміністрацыйнымі мерамі можна крыху паправіць эканоміку, але нельга вырашыць праблемы спаду вытворчасці і павышэння сацыяльнага ўзроўню жыцця людзей. У ходзе выступленняў адзначалася, што праект бюджэту безаблічны, не мае перспектыў, нацэлены толькі на цыраванне дзірак. Адказваючы на гэтыя папрокі, Мікалай Румас падкрэсліў: "Бюджэт у больш канцэнтраваным выглядзе адлюстроўвае палітыку дзяржавы, закладзеную ў праграме першачарговых мер выхаду з крызісу. Мы імкнёмся жыць па сродках".

Вынікі дыскусіі падвёў прэм"ер-міністр Міхаіл Чыгір. Ён падкрэсліў, што, складаючы бюджэт, Кабінет Міністраў зыходзіў з таго, што ён павінен быць рэальным, як па даходах, так і па расходах. Асобныя часткі праекта могуць быць перагледжаны, але сур"ёзных змяненняў у расходнай частцы быць не можа, паколькі запасы рэзерваў у бюджэт не закладзены.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ЦЭНЫ АТРЫМАЛІ «ВОЛЬНУЮ»...

**Аб гэтым стала вядома на чарговай урадавай прэс-канферэнцыі. У ёй прынялі ўдзел прэм"ер-міністр Міхаіл Чыгір, віцэ-прэм"ер Міхаіл Мясніковіч, Сяргей Лінг, Валерый Кокараў і Уладзімір Гаркун.**

### На прадукты харчавання

Паводле слоў Міхаіла Чыгіра, пераход да свабоднага цэнаўтварэння выкліканы эканамічнай неабходнасцю. Ён будзе паступовым. З 7 снежня напалавіну сталі даражэйшыя малочныя прадукты, на 30 працэнтаў — хлеб і хлебабулачныя вырабы, свініна, на 20 працэнтаў — ялавічына.

Гаворачы аб намерах урада пайсці на такія непапулярныя меры, кіраўнік Кабінета Міністраў заўважыў, што гэта неабходна для працягу дыялогу з Міжнародным валютным фондам аб фінансавай падтрымцы, без якой узнімаць эканоміку рэспублікі вельмі цяжка. Да таго ж невялікае адступленне ад свабоднага цэнаўтварэння ў лістападзе дало магчымасць насельніцтву зберагчы 103 мільярды рублёў, што паглыбіла незбалансаванасць грашовай і таварнай масы. Праўда, прэм"ер-міністр не ўдакладніў, сярод якіх слаёў нашых грамадзян прыхавана такая колькасць "зайчыкаў". Адзінае ён даў зразумець, што павышэння заработнай платы для работнікаў бюджэтнай сферы ў бліжэйшы час не прадбачыцца. Урад змог толькі адшукаць 20 мільярдаў рублёў і накіраваць іх для аказання дапамогі маламаёмным праз выканкомы.

### І на камунальныя паслугі

Іх падаражанне чакае ўсіх нас у канцы гэтага месяца. Паводле слоў Міхаіла Мясніковіча, з 25 снежня ў сем разоў павысіцца кватрплата, у 5,5 — цяпло і гарачае водазабеспячэнне, у 2,5 — водаправод, у 1,5 — электраэнергія, у два разы — карыстанне каналізацыяй. У паўтара раза павялічыцца плата за прыродны газ для бытавых патрэб і ў шэсць разоў — для ацяплення. Але і гэта будзе кампенсаваць толькі частку выдаткаў жыллёва-камунальных гаспадарак. Усе іх расходы мяркуецца ўскласці на насельніцтва з 1996 года.

У прынятым урадам рашэнні, на думку віцэ-прэм"ера, дастаткова шырока выкладзены меры сацыяльнай абароны насельніцтва. Імі прадугледжана, што ўся гэтая плата не будзе перавышаць 15 працэнтаў сукупнага грашовага даходу сям"і. Астатнюю частку дзяржава бярэ на сябе праз выдзяленне субсідый. У дакуменце агаворана таксама, што не будуць індэксавацца расходы па звышустаноўленых нарматывах.

Міхаіл Мясніковіч звярнуў увагу прысутных і на ўстаноўку прыбораў уліку. Цяпер 75 працэнтаў іх кошту аплачваецца дзяржавай і толькі 25 працэнтаў — жыльцамі. У далейшым гэтыя суадносіны будуць мяняцца і пасля 1996 года цалкам лягуць на іх плечы.

*БЕЛІНФАРМ.*



## КАЛГАС — ПЕРАМОЖЦА РЭСПУБЛІКАНСКАГА КОНКУРСУ

Калегія Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання падвяла вынікі рэспубліканскага конкурсу па нарыхтоўцы фуражу ў 1994 годзе. Пераможцам прызнаны калгас "Маяк" Дзяржынскага раёна, дзе на стойлавы перыяд ёсць на ўмоўную галаву жывёлы 19,6 цэнтнера кармавых адзінак.

Калгасу будзе ўручана прэмія — 800 тысяч рублёў. Гэтую суму размяркуюць паміж удзельнікамі важнай кампаніі і тымі, хто абслугоўваў іх.

Аб гэтым паведаміла дзяржынская раённая газета "Сцяг Кастрычніка"

## ЗНАКОМАЯ НЕЗНАКОМКА "МОТОРОЛА"

Американская фирма "Моторола" известна как один из крупнейших в мире производителей микроэлектроники. Ее представители рыщут по всему свету в поисках выгоды. Минское НПО "Интеграл" привлекло внимание фирмы своей стабильной работой при общем спаде производства в республике, неплохой технической базой, отработанными технологиями и, что немаловажно, более дешевой рабочей силой... "Моторолу" же прельстило то, что объединение выпускает аналоги некоторых ее изделий, которые дешевле заказать в Минске, чем производить у себя. Выгода в этом случае обоюдная. "Моторола" снизит себестоимость своей продукции, а работники завода "БИС" будут обеспечены заказами. На упаковочных коробках с микросхемами, сделанными по спецзаказу, будут красоваться фирменные знаки "Моторолы". Еще несколько лет назад такая продукция оборонного предприятия была немыслима.

*Вячеслав ИЩЕНКО.*

## "МАЯ АДСТАЎКА — ГЭТА НЕ ЎРАДАВЫ КРЫЗІС..."

Заяву аб сваёй адстаўцы пацвердзіў віцэ-прэм"ер рэспублікі В.Ганчар. У заяве, з якой ён выступіў на прэс-канферэнцыі перад журналістамі, В.Ганчар заўважыў, што гэты неардынарны ўчынак "пакладзе пачатак новай кіраўніцкай традыцыі добраахвотных адставак вышэйшых службовых асоб. І гэта не палітычны дэмарш, і тым больш не антыпрэзідэнцкая акцыя, — падкрэсліў намеснік кіраўніка ўрада, — паколькі ніхто так шчыра не зацікаўлены ў поспеху рэформ, курсу Аляксандра Лукашэнкі, як я. І я не маю права крытыкаваць дзеянні прэзідэнта, бо ўлада яму дадзена народам. У той жа час у мяне ёсць свае ўяўленні аб службовым абавязку, службовым гонары, свае ўяўленні аб інтарэсах дзяржавы, Радзімы".

Гаворачы аб сутнасці сваіх намераў, Віктар Ганчар заявіў, што ён падтрымліваў прэзідэнта, калі той стараўся нешта зрабіць нават і тады, калі бачыў, што ён шчыра не ведае, што трэба рабіць. Але "я не магу падтрымліваць, калі прэзідэнт стаў сродкам у руках групы прайдзісветаў, авантурыстаў, дылетантаў, якія прафінансавалі яго выбарчую кампанію і, спекулюючы на гэтым, зрабілі кіраўніка дзяржавы заложнікам сваёй пазіцыі". Паводле слоў віцэ-прэм"ера, матэрыялы аб фінансаванні выбарчай кампаніі знаходзяцца ў старшыні КДБ Уладзіміра Ягорава і "справа яго гонару як афіцэра і грамадзяніна распарадзіцца імі".

Гаворачы аб афіцыйнай матывіроўцы сваёй адстаўкі, віцэ-прэм"ер назваў "незразумелымі прынцыпы арганізацыі дзейнасці Кабінета Міністраў". Менавіта аб гэтым, паводле слоў Віктара Ганчара, ішла размова на двух яго пасяджэннях пры абмеркаванні калектыўнай пазіцыі. На яго думку, Кабінет Міністраў павінен адказваць за ўсю распарадча-выканаўчую дзейнасць дзяржавы. На жаль, "ён не ўдзельнічаў у прыняцці ніводнага прынцыпова важнага палітычнага і эканамічнага рашэння. Па сутнасці прэзідэнт не працаваў з Кабінетам, які быў цалкам адхілены ад кадравай палітыкі, таму нельга адказваць за тыя рашэнні, якія не прымаеш, як нельга працаваць і тады, калі тваю працу не паважаюць". На жаль, адсутнасць гэтых зразумелых чалавечых асноў, падкрэсліў віцэ-прэм"ер, прывяла да таго, што "з Кабінета Міністраў пайшлі самыя здольныя, сумленныя і прыстойныя кіраўнікі".

Віктар Ганчар выказаў таксама надзею, што "яго добраахвотная адстаўка будзе зразумелым сяброўскім жэстам для прэзідэнта, знакам пратэсту, які дасць магчымасць яму нарэшце падумаць аб тым, што ўлада даруецца народам для таго, каб правільна яе ажыццяўляць. І гэта дасць магчымасць прэзідэнту зрабіць галоўнае — вырвацца з палітычнай інфармацыйнай ізаляцыі і вызваліцца з учэпістых абдымкаў свайго бліжэйшага акружэння".

Адказваючы на пытанне, ці абмяркоўвалася адстаўка з прэзідэнтам, віцэ-прэм"ер адзначыў: "Сустрэчы з гэтай нагоды з Аляксандрам Лукашэнкам не было таму, што ён не праявіў такую ініцыятыву, а я не палічыў у гэтай сітуацыі магчымым звярнуцца да яго". Пры гэтым Віктар Ганчар падкрэсліў: "Мая адстаўка — гэта не ўрадавы крызіс у поўным разуменні гэтага значэння".

*БЕЛІНФАРМ.*

## Крымінал-тэлетайп з Барысава

**Па-ранейшаму складанай застаецца крымінагенная абстаноўка ў горадзе на Бярэзіне. Літаральна штодзень учыняюцца рабаўніцтвы, крадзяжы, іншыя злачынствы. А ў асобныя дні ў гараддзел міліцыі паступаюць звесткі адразу аб некалькіх здарэннях. Вось апошнія факты з крымінальнай хронікі.**

### САДЫСТЫ Ў МАСКАХ

Прыкладна каля дзевяці гадзін раніцы 29 лістапада да работніцы мясцовага камбіната прыкладнога мастацтва Л. завіталі "госці". Калі даверлівая гаспадыня адчыніла дзверы, у кватэру ўварваліся трое ў масках. Яны звязалі жанчыну і пачалі збіраць каштоўныя рэчы. А потым запатрабавалі валюту і каштоўнасці.

Пачуўшы адмоўны адказ, рабаўнікі ўключылі ў разетку электрапрас і сталі прыпальваць ім розныя ўчасткі цела сваёй ахвяры. Не вытрымаўшы катаванняў, жанчына аддала садыстам у масках 415 долараў ЗША і 5 тысяч расійскіх рублёў. Акрамя гэтага, рабаўнікі забралі таксама 4 футравыя шапкі і куртку "лайка".

### І БОСКАЙ КАРЫ НЕ ПАБАЯЛІСЯ...

Настаяцель Свята-Уваскрасенскага сабора айцец Іаан Місіюк паведаміў дзяжурнаму гарадскога аддзела ўнутраных спраў аб тым, што ў ноч з 29 на 30 лістапада, узламаўшы запасны выхад, невядомыя асобы залезлі ў царкву і ўкралі некалькі каштоўных рэчаў. Сярод украдзенага іконы "Уваскрэсенне Хрыста", "Прападобны Серафім Сароўскі", "Казанская Багародзіца" XYIII стагоддзя і ікона "Мікалай Цудатворац" XIX стагоддзя. Зладзеі ўкралі таксама сярэбраную чашу і два крыжы, адзін з якіх таксама сярэбраны.

### РАБАЎНІКІ-МАЛАЛЕТКІ

У дом барысаўчаніна Р., што пражывае па вуліцы Віцебскай, два рабаўнікі ўварваліся апоўначы 1 снежня. Дома быў толькі сын-васьмікласнік, які і стаў ахвярай начных налётчыкаў. Пырнуўшы юнака нажом у жывот, рабаўнікі забралі магнітафон, джынсавую куртку і некаторыя іншыя рэчы. Аднак літаральна назаўтра работнікам міліцыі былі затрыманы два непаўналетнія, якія падазраюцца ва ўчыненні злачынства. Украдзеныя ноччу рэчы адабраны.

### АГЛУШЫЛІ І ЗАБРАЛІ КАШТОЎНАСЦІ

У першы дзень зімы, каля дванаццаці гадзін дня, двое няпрошаных гасцей завіталі ў прыватны дом грамадзянкі М., якая знаходзіцца ў дэкрэтным водпуску. Аглушыўшы жанчыну ўдарам па галаве, рабаўнікі садралі з яе пальца заручальны пярсцёнак, забралі таксама футра, тры ланцужкі, адзін з якіх з кулонам, завушніцы і яшчэ два пярсцёнкі.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

## "БЕЛІНТУРЫСТ": НЯДОРАГА І З ГУСТАМ

Хоць і невялікая, але неардынарная падзея адбылася ў шахцёраў Салігорска. Цяпер кожны з іх без асаблівых клопатаў зможа адзін або разам з сям"ёй адправіцца ў блізкае ці далёкае падарожжа. А каб цікава і з камфортам правесці свой адпачынак, зусім неабавязкова прыязджаць у Мінск за паслугамі акцыянернага таварыства "Белінтурыст". З гэтага часу ўсе жадаючыя могуць зайсці ў яго філіял на вуліцы Леніна, 36, дзе атрымаюць не толькі комплекс паслуг гэтай добра вядомай фірмы, але і змогуць тут жа набыць неабходны для адпачынку і аздаблення свайго быту розны тавар.

Пасля цырымоніі адкрыцця філіяла, на якой прысутнічалі многія гараджане, а таксама прадстаўнікі мэрыі Салігорска і АТ "Белінтурыст", новае і прыгожае памяшканне па існуючай традыцыі асвяціў настаяцель Свята-Пакроўскай Старобінскай царквы айцец Генадзь, які пажадаў усім прысутным дабра і поспехаў у патрэбнай і карыснай справе.

— Гэта наш першы філіял у горадзе неабласнога значэння, — сказаў карэспандэнту Белінфарма генеральны дырэктар АТ "Белінтурыст" Яраслаў Няхай. — А чаму менавіта ў Салігорску? Тут ёсць некалькі аб"ектыўных прычын. Калі ўлічыць, што адной з іх з"яўляецца наша камерцыйная дзейнасць, то месца было выбрана не выпадкова. Па ўзроўню жыцця салігорскія шахцёры займаюць лідзіруючае становішча ў рэспубліцы. У іх самая высокая зарплата і вялікая патрэбнасць у добра арганізаваным і недарагім адпачынку. Якраз усё гэта мы і прапануем.

Сёлета, працягваў Я.Няхай, па нашых пуцёўках у розных краінах правялі адпачынак каля 6 тысяч беларусаў. У той жа час у рэспубліцы пабывала 15 тысяч замежных гасцей. У будучым іх чакаецца яшчэ больш. Намі распрацаваны новыя турысцкія напрамкі і праграмы, прысвечаныя 50-годдзю Вялікай Перамогі. Намячаюцца таксама розныя выстаўкі за мяжой, якія стануць своеасаблівымі візітнымі карткамі нашай дзяржавы.

Вядома, не кожнаму па кішэні замежнае турнэ, аднак планаваць і арганізоўваць свой адпачынак павінен умець кожны. І тут "Белінтурыст" аказвае дапамогу, кансультуючы і прапануючы тыя маршруты, што найбольш задавальняюць нашых грамадзян. Да такіх падарожжаў можна аднесці паездку ў Албанію на Адрыятычнае ўзбярэжжа. "Гэта недалёка і нядорага, але з густам", — сказаў, запрашаючы туды, кіраўнік беларускага "Інтурыста".

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Актуальнае інтэрв"ю

# ШТО ДЛЯ ШЧАСЦЯ ТРЭБА?..

**Статыстыка апошніх гадоў няўмольная: у рэспубліцы рэзка скарацілася нараджальнасць, колькасць памёршых значна перавышае колькасць нованароджаных. У прыватнасці, за дзесяць месяцаў гэтага года ў Мінскім раёне нарадзіліся 1.103 малышы, а памерла 1.295 чалавек. Хаос у эканоміцы, палітыцы, падзенне жыццёвага ўзроўню і няўпэўненасць у заўтрашнім дні прымушаюць маладыя сем"і абмяжоўвацца, як правіла, адным дзіцем. Нельга не звярнуць увагі і на яшчэ адзін даволі сумны факт: з 697 шлюбаў, узятых у раёне сёлета, скасаваны 481.**

**Думаю, цікава будзе пачуць наконт гэтага рэзюме загадчыцы аддзела ЗАГСа райвыканкома Ганны Андрэеўны Люцкевіч, чалавека кампетэнтнага ў гэтых пытаннях.**



— Маладыя часцяком не абдумваюць свае дзеянні, — заначае Ганна Андрэеўна. — Не ўсе разумеюць, што ў сямейнае жыццё трэба ўступаць свядома, з пачуццём вялікай адказнасці.

***— Меркаванні пра шлюбны ўзрост у розныя часы былі розныя. Але ж вопыт многіх пакаленняў сведчыць, што стварэнне сям"і мэтазгодна толькі тады, калі чалавек усебакова падрыхтаваны да гэтага...***

— Безумоўна, гатоўнасць да сямейнага жыцця вызначаецца не толькі фізічнай сталасцю, але маральнай і сацыяльнай таксама. А гэтыя якасці ў працэсе станаўлення чалавека фарміруюцца неаднолькава. Напрыклад, у 18—20-гадовым узросце магчыма адставанне па фізіялагічных параметрах. Што датычыць сацыяльнай сталасці, то яна наступае значна пазней, калі чалавек атрымае спецыяльнасць, пойдзе на свой заработак. Аналіз шлюбаразводных спраў паказвае, што часцей распадаюцца сем"і ў першыя пяць гадоў сумеснага жыцця. Прычына — непадрыхтаванасць маладых да нялёгкіх выпрабаванняў, адсутнасць ясных жыццёвых пазіцый, няўменне правільна ўлічваць абставіны, самастойна прымаць рашэнні, будаваць адносіны са старэйшым пакаленнем у сям"і.

***— Якія матывы разводу?***

— Іх шмат. Дарэчы, рэальную прычыну іншы раз высветліць даволі цяжка. Нярэдка за стандартнымі фразамі "не сышліся характарамі", "часта сварыліся" хаваюцца больш глыбокія матывы: п"янства, шлюбная здрада, іншыя.

***— Ганна Андрэеўна, які тэрмін найбольш пажаданы з моманту знаёмства да вяселля?***

— Прыкладна год. Па-першае, маладыя людзі павінны добра пазнаць адно аднаго, пазнаёміцца з сем"ямі. Будучым мужу і жонцы неабходна высветліць свае маральна-псіхалагічныя якасці. І яшчэ. Сям"я будзе моцная толькі тады, калі маладыя паважаюць адно аднаго, уважліва адносяцца да бацькоў.

***— Цяпер стала модным выхоўваць адно дзіця. Чаму зніжаецца нараджальнасць?***

— Думаю, асноўная прычына — матэрыяльныя цяжкасці. Хаця сям"я і дзеці непадзельныя: першынец аб"ядноўвае мужа і жонку, умацоўвае сям"ю. Але тыя цяжкасці, з якімі даводзіцца сустрэцца пасля нараджэння першага немаўляці бацькам, прымушаюць задумацца, ці патрэбна ім другое дзіця. Ёсць сумныя факты і ў нашым раёне. У мінулым годзе дзве пары пакінулі сваіх немаўлят у радзільным доме. На жаль, і сёлета зарэгістраваны такі выпадак. Даць тлумачэнне тут вельмі складана. Лічу, гэта вялікі грэх.

***— У Рэспубліцы Беларусь узрост, у якім маладыя людзі могуць узяць шлюб, устаноўлены з 18 гадоў. Ганна Андрэеўна, а што калі...***

—...У асобных выпадках устаноўлены шлюбны ўзрост можа быць зніжаны. Дарэчы, гэтае права дадзена выканкомам гарадскіх і раённых Саветаў. Для вынясення станоўчага рашэння патрабуецца выкананне некалькіх умоў, а таксама матывіроўка выключнага выпадку. Як сведчыць практыка работы выканкомаў, гэта, як правіла, цяжарнасць непаўналетняй ці нараджэнне ёю дзіцяці.

*Запісаў Юрый ПОЙКА.*

*НА ЗДЫМКУ:* "Нас трое, і мы шчаслівыя!"

*Фота Аляксандра РУЖЭЧКІ.*

### Навіны Магілёўшчыны

## На дагаворнай аснове

Бялыніцкі райвыканком у адпаведнасці з патрабаваннямі прэзідэнцкага ўказа заключыў першыя дванаццаць кантрактаў з кіраўнікамі прадпрыемстваў і арганізацый дзяржаўнай уласнасці. З тымі, хто не замешаны ні ў якіх нядобрых справах і да каго ў мясцовай улады няма прэтэнзій. Работа па падрыхтоўцы кантрактаў з кіраўнікамі працягваецца.

## Калгасы клапоцяцца аб бальніцы

Падтрымалі раённую бальніцу калгасы і саўгасы Быхаўскага раёна. Яны разам сабралі каля пяці мільёнаў рублёў на набыццё лякарстваў. А ў Кіраўскім раёне мясцовыя гаспадаркі бязвыплатна забяспечылі бальніцу бульбай на ўвесь сезон. Бюджэтныя сродкі, прызначаныя для закупкі гэтай прадукцыі, пойдуць на набыццё дадатковых лякарстваў.

## Школьнікі будуць харчавацца лепш

У Касцюковічах вырашылі падтрымаць школьнікаў. Як вядома, на харчаванне з бюджэту выдзяляецца ў дзень на кожнага вучня па трыста рублёў. Гэтага хапае толькі на адну шклянку чаю з самай таннай булачкай. Па ініцыятыве мясцовай улады вырашана даціраваць яшчэ па дзвесце рублёў на кожнае дзіця за кошт сродкаў гаспадарак, на тэрыторыі якіх знаходзяцца школы, а таксама прадпрыемстваў-шэфаў.

## Аўтазапраўку пабудуе латвійская фірма

Латвійскае камерцыйнае прадпрыемства "Трэстойл" атрымала "дабро" на будаўніцтва аўтаматычнай заправачнай станцыі ў Магілёве. Такое рашэнне прыняў мясцовы гарвыканком. Мяркуецца, што гэтай фірме будзе прадастаўлена права адкрыць у горадзе яшчэ некалькі такіх аб"ектаў. Вось толькі невядома, чым гаручым будуць гандляваць латышы. Свайго ж у іх няма.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Мысли вслух

# КУДА НИ КИНЬ

**В парламенте, прессе, на телевидении и радио идут разговоры о том, как преодолеть нынешнее лихолетье. Миллионы трудящихся ежедневно обеспокоены тем, как обеспечить свои семьи хотя бы самым необходимым.**

Можно ли ожидать улучшения? Факты говорят об обратном. За последние два года производство упало в два раза. За восемь месяцев текущего года объем национального дохода по сравнению с соответствующим периодом прошлого года сократился на 27%. С 1991 года идет спад и сельскохозяйственного производства.

Еще недавно на селе открывались комбинаты бытового обслуживания, пункты приема, мастерские по пошиву и ремонту одежды и обуви, работали детские сады и ясли. Теперь все это рушится.

Мальчики и девочки, которые в этом году впервые сели за школьные парты, наверное, и представить себе не могут, что еще не так давно мороженое можно было купить за 20 копеек, а молоко стоило 24 копейки за литр. Сахар, который сегодня многим не по карману, стоил всего 76 копеек за килограмм.

В то же время идет и процесс моральной деградации общества. Грабежи, насилие, жестокость становятся нормой повседневной жизни.

А в верхах идет полемика, звучат призывы к строительству цивилизованного общества. Различные партии выдвигают свои программы, пути выхода из кризиса. Но, похоже, в этом многоголосом партийном хоре народу недосуг разобраться, чем отличается, скажем, программа социал-демократической партии от социалистической.

Сейчас, разумеется, уже трудно узнать, кто первый из депутатов предложил спекуляцию назвать коммерцией, но Верховный Совет принял закон, благодаря которому полки магазинов быстро опустели, а нужные простому народу товары продавались верткими людьми с большим "наваром". А что дал простым труженикам Закон об охране прав потребителя? Покупателя по-прежнему обманывают, обсчитывают, обвешивают, нужные товары припрятывают, недоброкачественные — продают, словом, куда ни кинь, всюду клин.

Между тем есть исторические примеры, свидетельствующие о том, как государства в сравнительно короткий срок выходили из критических ситуаций. В начале 30-х годов тяжелое положение сложилось в США, страна была охвачена глубоким экономическим кризисом. По стране бродили тысячи безработных и голодных людей. Президент США Ф.Рузвельт, придя к власти в 1932 году, начал свой "новый курс" не с взвинчивания цен, а с наведения порядка, укрепления дисциплины, внедрения контроля, борьбы с денежными махинациями, организации общественных работ.

За короткий срок встала на ноги пережившая ужасы атомных бомбардировок Япония, а также Южная Корея, Тайвань. Есть чему поучиться у Китая.

Каким путем пойдем мы? Ясного ответа пока нет. Похоже, расстановка политических сил в республике такова, что наблюдается некоторая неопределенность в выборе пути нашего дальнейшего развития.

В научных кругах поговаривают, что развитые страны стоят на пороге новой цивилизации, что в мире идет процесс социализации капитализма и капитализации социализма. В свое время академик А.Д.Сахаров, предполагая сближение двух общественно-политических систем, высказывал мысль, что сближение возможно на социалистической и демократической основе. А народ все терпит, ждет и надеется. До каких пор?

*И.КЛУЦКО, ветеран Великой Отечественной войны и труда.*

# ЦЭНАМ СКАМАНДАВАЛІ. СКАМАНДУЕМ МОВЕ?

У друку паведамлялася ўжо, што ў дзень пачатку работы 15-й сесіі Мінскага гарадскога Савета каля ўваходу ў памяшканне Мінгарвыканкома народных абраннікаў сустрэлі пікеты. Адны патрабавалі забяспечыць у школах рускамоўнае навучанне, другія — даць магчымасць вучыць дзяцей на беларускай мове. Страсці распаліліся, і паміж пікетчыкамі ўзнікла хуліганская сутычка. Супрацьстаянне па моўнаму водападзелу нечакана праявілася ў па-дзікунску грубай форме. Нават простым вокам відаць, што моўнае пытанне становіцца адной з карт, якую спрабуюць разыграць безадказныя палітыкі напярэдадні парламенцкіх выбараў.

Як растлумачыў намеснік старшыні Мінгарвыканкома Аляксандр Сасноўскі, тым, хто хоча навучаць дзяцей на рускай мове, крыўдаваць няма аб"ектыўных падстаў. Хутчэй, наадварот. На сённяшні дзень у Мінску няма ніводнай беларускамоўнай школы. У 60 працэнтах школ Мінска пачата навучанне першакласнікаў на беларускай мове, і толькі праз дзесяць год гэтыя школы стануць цалкам беларускамоўнымі. Дзеля пашырэння моўнага асяродку ў кожнай школе з першага класа вывучаецца англійская мова.

Зразумела, адзначыў А.Сасноўскі, каля кожнага пад"езда мы не зможам адкрыць рускамоўную школу. Практыка паказала і непрымальнасць адкрыцця ў адной школе рускамоўных і беларускамоўных класаў. Але для тых, хто хоча навучаць дзяцей выключна на рускай мове, у Мінску такая магчымасць ёсць. Што датычыць беларусізацыі, то гарадскія ўлады проста выконваюць Закон аб мовах. На яго выкананне, дарэчы, дзяржавай выдаткаваны вялікія сродкі, створаны падручнікі на беларускай мове, праз некалькі год вышэйшыя навучальныя ўстановы будуць гатовы весці навучанне на роднай мове. Мова, заўважыў А.Сасноўскі, гэта не цэны, дзе можна кідацца з боку ў бок.

Апошняе камандаванне цэнамі прывяло, паводле заключэнняў экспертаў, да страт у 100 млрд.рублёў. Хочацца верыць, што палітыкам хопіць цвярозага розуму, і яны адмовяцца ад моўнага пытання як рычага для дасягнення сваіх амбіцыйных дамаганняў.

*Павел ВЕРАБ"ЁЎ.*

## ПРЭМІЯ — ЦЯЛЁ

Зарплата жывёлаводаў у саўгасе "Перадавік" Барысаўскага раёна, як і ўсюды, нізкая. І вось, каб неяк аблегчыць матэрыяльнае становішча людзей, рашэннем адміністрацыі ўведзены розныя даплаты: за павелічэнне надояў і тлустасці малака, за высокую захаванасць цялят і г.д.

Даяркі і цялятніцы штомесяц маюць нейкі "прыварак" да зарплаты. Але ўсе чакаюць канца года, калі лепшыя з іх атрымаюць у якасці прэміі... цялят. Такой "валюце" ніякая інфляцыя не страшная.

*Сцяпан БУКАЦІЧ.*



*У Юрыя Іванавіча **Грыбкоўскага** — неспакойная і адказная пасада. Ён — старшыня праўлення Бярэзінскага райспажыўсаюза. Юрый Іванавіч прыкладае намаганні, каб у гандлёвых кропках раёна людзі маглі набыць неабходныя ім тавары.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

# К СВЕДЕНИЮ ПОТРЕБИТЕЛЕЙ

## электроэнергии г.Минска и Минской области

С 1 декабря 1994 г. по Минской области введены следующие тарифы на электроэнергию, зарегистрированные Департаментом цен при Министерстве экономики Республики Беларусь 30.11.94 г. за № 319-Ц /тарифы даны в белорусских рублях/:

| | |
|---|---|
| 1. Промышленные и приравненные к ним потребители 750 кВА и выше | |
| — основная плата /за 1 месяц/ | — 30.667 руб./кВт |
| — дополнительная плата | — 262 руб./кВт.ч |
| 2. Промышленные и приравненные к ним потребители до 750 кВА | — 343 -"- |
| 3. Электрифицированный ж/д транспорт /электротяга/ | |
| — пригородный | — 261 -"- |
| — без пригородного | — 343 -"- |
| 4. Электрифицированный городской транспорт /электротяга/ | — 261 -"- |
| 5. Непромышленные потребители | |
| — бюджетные организации | — 261 -"- |
| — ведомственная социальная сфера, уличное освещение и прочие непромышленные потребители | — 343 -"- |
| 6. Больничные учреждения Минздрава РБ | — 70.20 -"- |
| 7. Производственные нужды сельхозпотребителей | — 244 -"- |
| 8. Электроэнергия для нужд отопления и горячего водоснабжения | |
| — в часы ночного минимума * | — 244 -"- |
| — в остальное время суток | — 1.221 -"- |
| 9. Строительные организации Белсельстроя | — 343 -"- |
| 10. Освещение лестничных клеток, дворов | — 244 -"- |
| 11. Электроэнергия, расходуемая на работу лифтов | |
| — в домах Минжилкомхоза | — 244 -"- |
| — в домах ЖСК при наличии раздельного учета | — 150 -"- |
| 12. Электроэнергия, расходуемая садоводческими товариществами на полив | — 43.20 -"- |
| 13. Население | |
| — городское | — 70.20 -"- |
| — сельское и городское в домах, оборудованных электроплитами | — 46.80 -"- |
| 14. Населенные пункты | |
| — городские | — 61.20 -"- |
| — сельские | — 41.40 -"- |

* При наличии дифференцированного учета по времени суток.

При отсутствии — по тарифу, применяемому в остальное время суток.

*Предприятие "Энергонадзор".*

### Прокурор о текущем моменте

# С ОТКРЫТЫМ ЗАБРАЛОМ

**Поводов для оптимизма мало. По сравнению с прошлым годом преступность возросла на 16,1 процента. В частности, умышленные убийства и покушения — на 27,6, грабежи — на 33, кражи государственного имущества — на 12,6, личного — на 24,5 процента. Также увеличились тяжкие телесные повреждения, изнасилования и покушения, а в целом тяжкие преступления возросли на треть, или, точнее, на 31,7 процента.**

**Все чаще значительное количество преступлений не раскрывается. Преступники не установлены по 28,8 процента зарегистрированных преступлений. Из них — по каждому четвертому разбою, каждому пятому грабежу. Не раскрыто 10 процентов хулиганств и тяжких телесных повреждений, почти половина всех краж государственного и личного имущества. Информация из первых уст. Анализирует ситуацию прокурор Минской области В.А.СИРОШ.**

## О преступлениях против личности

Совершено 126 умышленных убийств и 22 покушения на убийства. 14 умышленных убийств в этом году не раскрыты, а рост их продолжается. Характерными чертами убийств стало то, что они приобрели явно корыстную направленность, их стали совершать с особой жестокостью, с сожжениями трупов, с пытками. Нередко одна коммерческая структура проводит "разборки" с другой.

Так, в лесу вблизи деревни Королев Стан Минского района обнаружена служебная автомашина "мерседес" Минского автозавода. Она была сожжена, а в багажнике обнаружены останки трупа водителя этой машины М.Янковского.

В лесу недалеко от деревни Новое Поле Минского района найден полусожженный труп В.Кречко, который занимался реализацией легковых автомобилей. Аналогичная история повторилась около деревни Котяги.

Прокуратура принимает меры по своевременному раскрытию таких преступлений. Налажено дежурство пяти следственно-оперативных групп по выездам на место происшествия по неочевидным убийствам. Неплохо налажено взаимодействие органов прокуратуры с милицией. Совместно расследовались такие жестокие преступления, как разбойные нападения на таксистов в Минске и Минском районе, убийство водителя-телохранителя СП "Велис" В.Залевского, на которого напала организованная группа преступников, ранили его из пистолета, вывезли в лес, где ремнем удушили, облили бензином и подожгли.

## О детских "шалостях"

Обстановка с преступностью несовершеннолетних остается сложной. Росту преступлений наряду с экономическими, социальными факторами способствуют в определенной степени пробелы в воспитательно-профилактической работе.

Длительное время в обстановке семейного неблагополучия проживала 13-летняя учащаяся 8-го класса Положинской, а затем Желновской НСШ Березинского района Света Луцикович. Ее мать вела аморальный образ жизни вместе с сожителем В.Ермашкевичем. В присутствии детей они пьянствовали, устраивали скандалы, драки. Ермашкевич, находясь в нетрезвом состоянии, заставлял детей есть сырую картошку, когда они отказались, избил Свету. Защищаясь, она ножом ударила Ермашкевича, от полученных телесных повреждений он скончался. Педагогические коллективы школ не интересовались условиями жизни детей, вопроса о лишении родительских прав не ставили. Не проявили интереса к этой семье ни комиссия, ни инспекция по делам несовершеннолетних.

Неблагополучная обстановка с преступностью сложилась среди учащихся очно-заочной школы Жодино, где 15 человек совершили 19 преступлений. Сделали здесь выводы? Отнюдь. Нет сведений о занятости в свободное от учебы время подростков, состоящих на учете в инспекции по делам несовершеннолетних, не проводится работа с родителями. На уроках, как правило, отсутствует большое число учащихся. Так, на уроке белорусского языка в 8-м классе из 17 детей присутствовало только три, на уроке в 9-м классе из 28 — 7, на уроке физики в 10 "А" из 15 лишь 3.

Из 3.628 несовершеннолетних, состоящих на учете в инспекциях, 637 нигде не работают и не учатся. В Солигорском районе таких детей 95, Минском — 88, Борисове — 83, Березинском — 42, Молодечненском — 41, Слуцком — 31, Дзержинском — 29, Логойском — 27.

## О беспорядках в кредитно-финансовой сфере

Отсутствие четкой финансово-кредитной политики, солидной законодательной базы позволяет различного рода мошенникам отвлекать из производственно-хозяйственного оборота, прокручивать, обналичивать, получать по подложным документам в качестве кредитов большие денежные средства. Существующая система контроля, включая банковскую, в ряде случаев не срабатывает. Правоохранительным органам, когда такие коммерческие структуры "лопаются", а их руководители скрываются, очень сложно расследовать эти дела, а обеспечить возврат денег бывает зачастую просто невозможно.

Вот лишь два примера по уголовным делам, которые расследуются прокуратурой области и управлением налоговых расследований. Директор фирмы МП "Атлант" Г.Шиманский заключил более 165 фиктивных договоров с более чем 100 предприятиями и организациями различных форм собственности на поставку товаров, выполнение работ, оказание услуг. Фактически же он за определенную мзду занимался приобретением и продажей наличных и безналичных денежных средств, то есть лжепредпринимательством, скрывая как характер такой деятельности, так и доход, от государства. Всего таким образом было "прокручено" около 4 миллиардов рублей (до деноминации), которые попали в основном в карман должностных лиц предприятий.

Прокуратура расследует уголовное дело по обвинению главного бухгалтера мемориального комплекса "Хатынь" И.Конколович, которая, используя свое служебное положение, вносила ложные данные в официальные банковские документы с целью перечисления крупных сумм денег для дальнейшего обналичивания. Расчетный счет "Хатыни" в управлении Белбизнесбанка по Минской области использовался для проведения расчетно-платежных операций различными коммерческими структурами и частными предпринимателями. При этом в платежных поручениях на перечисление денежных средств делалась ссылка на договоры и письма за якобы выполненные строительно-монтажные работы и оказанные услуги. Документов, подтверждающих фактическое выполнение этих работ, не установлено. Всего на расчетный счет "Хатыни" от различных коммерческих структур, частных предпринимателей поступило, а затем обналичено и тем самым скрыто от налогообложения 8,3 миллиарда рублей. Таким образом, И.Конколович, вступив в преступный сговор с работниками "Белбизнесбанка" и директором филиала "Немига" банка "Дукат", злоупотребляя своим служебным положением, способствовала обналичиванию крупных сумм денег, принадлежащих коммерческим структурам, за что работники банка получали взятки в виде денежных средств и материальных ценностей.

Что необходимо сделать, чтобы повлиять более эффективно на борьбу с преступностью? Наметилась устойчивая тенденция роста преступлений, в том числе и тяжких. А раскрывать и расследовать эти преступления приходится теми же немногочисленными штатами. Труд следственно-оперативных работников не в почете, они испытывают перегрузки, многие уходят работать в другие места. Не на должном уровне налажено материально-техническое обеспечение. Необходимо содействие всех в борьбе с преступностью.

*Записала Ирина АНДРЕЕВА*

